# Рабочы Бабруйска

№ 11 (52) 5 – 11 красавіка 2001г. Наклад 299 ас. Паштовы адрас: 213 807, Бабруйск, а/с 25. Рэдактар Ігар ХОДЗЬКА.

СВЯТА

25 САКАВІКА Ў БАБРУЙСКУ

## ВЕЦЕР ПЕРАМЕН



Накіроўваючыся 25 сакавіка 2001 года а 12-ай гадзіне на плошчу Перамогі, каб павіншаваць сваіх сяброў і знаёмых з Днём Волі, я, не жадаючы таго, ўзгадаў падзеі мінулага года, калі супрацоўнікамі міліцыі было затрымана 14 удзельнікаў свята Дня Волі-2000. Безумоўна, я добра разумеў, што знаходжанне на плошчы Перамогі ў дзень 83-х угодкаў абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі можа стаць падставай для прыцягнення ўдзельнікаў свята да адміністрацыйнай адказнасці. Аднак сама ўлада парушала і парушае правы тысячаў бабруйчан, накіраваўшы ўсіх адзначаць святыя для беларусаў гістарычныя падзеі на стадыён ФанДАК.

Цяжка сказаць, свядома ці не бабруйскія ўлады супрацьпастаўляюць міліцыянтаў і прадстаўнікоў дэмакратычных сіл нашага горада. Неабходна адзначыць, што добра знаёмыя па мінулагоднім затрыманням супрацоўнікі міліцыі паводзілі сябе надзвычай цывілізавана. Некаторыя з іх нават шчыра павіншавалі ўдельнікаў свята.

Само свята атрымалася! Надвор'е, як заўсёды на 25 сакавіка, было добрае, лунаў бел-чырвона-белы сцяг, людзі віншавалі адзін аднаго з Днём Волі. Што датычыцца палітыкі, ад якой спрабуюць аградзіць нас ўлады, то відавочны рост палітызаванасці насельніцтва нашага горада. Людзі, якія атрымлівалі з рук ўдзельнікаў свята незалежную прэсу, ці проста праходзілі па плошчы Перамогі, адкрыта выказвалі свае адносіны да палітычнага курса краіны. Найчасцей, пасля зразумелых усім скарг на сённяшняе жыццё, выказвалася спадзяванне на тое, што знойдзецца чалавек, які будзе здольны вывесці нашу краіну з крызісу.

На вялікі жаль, некаторыя з мінакоў, пераважна людзі сталага ўзросту, выказвалі свой адчай. Асноўны лейтматыў якога: "гэта нічога не дасць", "вы нічога не зменіце" і. г.д. Не мной заўважана, што ў людзей на постсавецкай прасторы адбылася "ампутацыя мары". Людзі страцілі надзею і не бачаць выйсце з агульнага крызісу. У такім стане яны з'яўляюцца аб'ектам для маніпуляцый з боку несумленных палітыкаў. Выйсце з гэтага патавага становішча адначасова вельмі простае і вельмі складанае, трэба ачуць і зразумець, што толькі ўсе разам мы – грамадзяне Беларусі, у незалежнасці ад нашых палітычных сімпатый і антыпатый, здольныя адбудаваць наш агульны ўтульны дом.

Прыемна ўражвае вялікая колькасць маладых людзей, якія прымаюць актыўны ўдзел у мерапрыемствах дэмакратычных сіл нашага горада. Гэта і зразумела, бо моладзь найбольш пацярпела ад няўдалага палітычнага і эканамічнага курса кіраўніцтва краіны. Сёння шмат маладых людзей па фінансавых прычынах не здольны атрымаць адукацыю, задаволіць элементарныя бытавыя патрэбы, уладкавацца на працу і г.д. Нягледзячы на безвыходнасць, моладзь пад бел-чырвона-белымі сцягамі захавала веру ў лепшае і сваім прыкладам натхняе іншых, у тым ліку і мяне, на барацьбу за свабоду, незалежнасць і лепшую долю.

Сыходзячы з плошчы Перамогі, я зразумеў, што нас чакаюць вялікія перамены, і лёгкі сакавіцкі ветрык – не што іншае як пачатак таго Ветра Перамен, якога нам так не хапае.

**Алесь ЧЫГІР.**

НА БШК «БЕЛШИНА»

## Игра в "испорченный телефон"

На ПО "БШК" вновь остановлено производство. Договор с российским банком "Авангард" не подписан, а переговоры превратились в обыкновенную болтовню, или, как принято сейчас говорить, договор о намерениях.

А ведь как все хорошо начиналось. Красивая картинка по БТ: Д. Сивицкий с К. Миноваловым, президентом банка, в шикарных креслах на фоне камина, вместе с А.Г. ведут доброжелательную беседу, полную иллюзорных планов о совместном сотрудничестве. И если сейчас попытаться разобраться в тех идеях, с которыми две стороны шли на переговоры, то можно прийти к выводу, что общались они на разных языках экономики. Для одних сотрудничество – это то, что приносит совместную прибыль. Для других – это централизованная экономика времен СССР, замешанная на политике. В итоге диалог двух сторон выглядел, как перестукивания по батареям центрального отопления, да еще без знания азбуки Морзе.

Так, у руководства БШК до сих пор отсутствует четкое понимания того, в какой ситуации оказалось предприятие и какими реальными способами можно из этого кризиса выйти. Чем по-другому можно объяснить выставляемые банку "Авангард" такие жесткие условия для подписания договора? Это требование о предоставлении инвестиций и право самостоятельно ими распоряжаться, без контроля банка; требование банку взять на себя все издержки и покрыть стоимость всех выплат: зарплата, соцстрах, налоги и амортизация, но без самостоятельных попыток проведения мероприятий в плане налаживания производства и экономии в определенных статьях расходов. А утверждение о том, что множество иностранных и белорусских банков просто "горят нетерпением" предоставить БШК кредит на очень льготных условиях, серьезно не воспринимается. Банк "Авангард", конечно, не "тимуровец", но готов первое время работать без прибыли для себя. Ведь после выхода БШК на планируемые производственные мощности предприятие в плане поставок сырья и энергии будет "повязано" с банком, и что самое важное – реализация продукции, а, соответственно, и валютные поступления, будут проходить через "Авангард". Возможно, такое отстранение от валютного потока и останавливает беларусскую сторону от подписания договора. А пока в ожидании инвесторов БШК простаивает.

**СТУДЕНТ.**

---

В ожидании, пока иностранные и белорусские банки выстроятся в организованную очередь и понесут свои деньги, руководство БШК ищет внутренние резервы. Используются как старые методы, так и новшества. Опять задерживается выплата зарплат, опять остановлено производство. Но если раньше рабочих за две трети отпускали по домам, то теперь необходимо находиться на рабочем месте. Для тех, кто не может или не хочет без толку сидеть, предлагают "аккордную" работу – 2-3 часа ударного труда и домой. Но, так как это, в основном, уборка – грязная работа, то еще значительное время придется провести под душем. Также предлагают написать заявление на отпуск за свой счет на несколько дней, тогда остальные дни проведешь дома, без обязательной "отсидки". Повидимому, руководство "Белшины", вместо поиска реальных способов выхода из сложившегося на предприятии кризиса, намерено и дальше использовать такого рода "внутренние резервы".

Вот только почему отмалчиваются профсоюзы?

**Соб. инф.**

*(Продолжение темы на стр. Б.)*

БУДНІ

## Зацягнем паясы!

Затрымкі заробкаў на шэрагу прадпрыемстваў бюджэтнай сферы выклікаыы нездавальняючай працай прамысловых прадпрыемстваў горада ў першыя месяцы гэтага года. Толькі за студзень і люты гарадскі бюджэт не атрымаў 1,5 мільярды рублёў, а запазычанасць з пачатку года павялічылася ў пяць разоў.

Становішча з нявыплатамі наўрад ці зменіцца, так як 90 працэнтаў ўсіх выплат у гарадскі бюджэт прыпадае на прадпрыемствы дзяржаўнага сектару эканомікі. Адпаведна будзе расці запазычанасць па заробках, і будзе скарочана фінансаванне запланаваных на гэты год гарадскіх праграм.

## Ізноў праверка

Апошнім часам на Бабруйск звярнулі ўвагу. Спачатку намеснік старшыні Магілёўскага аблвыканкама, а потым віцэ-прэм'ер Генадзь Навіцкі. Чыноўнікаў, у першую чаргу, цікавілі справы на гэтак званых бабруйскіх доўгабудах, якімі з'яўляюцца мост праз Бярэзіну, другая чарга анкадыспансера і дзіцячая паліклініка ў 5 і 6 мікрараёнах.

Увод у эксплуатацыю гэтых аб'ектаў плануецца на 3 і 4 кварталы бягучага года і хутчэй за ўсё будзе прымеркаваны да маючых адбыцца прэзідэнцкіх выбараў. Такая пільная ўвага чыноўнікаў досыць вялікага ранга выклікана недаверам да інфармацыі, якая ідзе ад мясцовых улад.

## Чарговы сюрпрыз

Напярэдадні дачнага сезону ўлады прыпаднеслі жыхарам краіны чарговы сюрпрыз. З 20 сакавіка на 50 працэнтаў узрос кошт праезду ў цягніках прыгарадных зносін. Кошт адной зоны зараз будзе складаць 60 рублёў (ільготны тарыф – 30 рублёў). Акрамя таго, падаражэў на 40 працэнтаў праезд у цягніках унутрырэспубліканскіх зносін.

## Сіфіліс і хламідыёз пайшлі ў атаку

Нягледзячы на агульнае зніжэнне выпадкаў захворвання на сіфіліс у Беларусі, ў нашым горадзе колькасць хворых на гэту распустную хваробу ўвесь час расце. Толькі ў лютым 2001 года ў Бабруйску выяўлена 30 выпадкаў захворвання на сіфіліс. Акрамя таго, аматарам сэксуальных прыгод пагражае не менш жахлівая хвароба – хламідыёз. Штодзённа ў лабараторыі паліклінікі №1 дыягнасціруецца 3-4 выпадкі захворвання на хламідыёз.

## Доўгачаканая змена

Ва Упраўленні аховы здароўя г. Бабруйска нарэшце адбылася доўгачаканая змена кіраўніцтва. Замест былога загадчыка І.І. Буйніча, у якога скончыўся тэрміновы кантракт, прызначаны саракагадовы А.Н. Гулькоў, які больш за сямнаццаць год адпрацаваў у паліклініцы №5 урачом-тэрапеўтам, загадчыкам тарапеўтычнага аддзялення і нарэшце з 1993 года – кіраўніком гэтай установы.

## "Зубр" у тэатры

23 сакавіка ў бабруйскім тэатры, падчас спектаклю "Листок на ветру", актывісты арганізацыі "Зубр" раскідалі ўлёткі, дзе ўзгадвалася, што ў нашай краіне ёсць людзі, якія не ходзяць ў тэатр. Гэта добра вядомыя палітыкі і журналісты, што зніклі ў апошні час ці знаходзяцца ў турме. Па словах аднаго з удзельнікаў, мэтай акцыі было "..., звярнуць увагу наведвальнікаў тэатра на злачынныя дзеянні дыктатарскага рэжыму, які ўсталяваўся ў нашай краіне.

## Больш дыспутаў!

Напярэдадні Дня Волі 25 сакавіка Бабруйская гарадская арганізацыя "Маладыя сацыял-дэмакраты" праводзіла дыспут пра сутнасць патрыятызму і нацыяналізму. На думку арганізатараў мерапрыемства, гэтая тэма вельмі актуальная на сённяшні час.

Падчас дыскусіі быў зроблены павольны пераход ад вытокаў узнікнення нацыянальнай ідэі да сучаснай рэчаіснасці. Было выказана шмат цікавых меркаванняў. Удзельнікі прыйшлі да высновы, што патрыятызм і нацыяналізм, нягледзячы на ўсе адрозненні, маюць паміж сабой яўную сувязь і адзначылі патрэбнасць абуджэння нацыянальнай свядомасці сярод беларусаў.

Усе засталіся задаволенныя. Нават былі выказаны пажаданні ў адрас арганізатараў: "Файна! Больш дыспутаў!".

**Ул. інф.**



Свои обращения, отклики, пожелания вы можете прислать нам на адрес: 213809, Бобруйск, а/я 25.

НА БШК «БЕЛШЫНА»

# С рабочими встретиться отказались

26 марта в одном из цехов ЗМШ БШК "Белшина" рабочие отказались приступать к работе, мотивируя это задержкой выплаты зарплаты. По инициативе некоторых трезвомыслящих рабочих было предложено провести собрание и на нём принять требование к администрации. Вопреки желанию начальства собрание состоялось. И это – знаковое событие!

Отказались от приглашения встретиться с рабочими представители профкома завода и отдела труда и зарплаты. Заместитель директора завода Воробьёв и председатель цехового комитета не пожелали протоколировать собрание. Тогда рабочие решили ограничиться принятием заявления на имя нового генерального директора БШК (под документом было собрано более 60 подписей!) и без особого энтузиазма приступили к работе.

На встречу с генеральным, где было решено отдать заявление "лично в руки", рабочие допущены не были.

Заявление, тем не менее, отправили по назначению, а также передали в редакцию газеты "Рабочы Бабруйск". Наступило тревожное затишье. Надолго ли?

**Гордей БЕЛШИНОВСКИЙ.**

## Текст заявления

*Генеральному директору РУП БШК " Белшина" Д.А. Сивицкому от группы рабочих ЗМШ*

*Заявление*

*Расцениваем задержку выплаты ничтожно мизерной заработной платы как неспособность администрации управлять предприятием.*

*Во избежание недоразумений, требуем выплатить зарплату до 30 марта 2001 года, с учётом п.3.27 Коллективного договора.*

*Если заработная плата не будет выплачена до указанного срока, а также если в дальнейшем будут допускаться задержки с её выплатой, оставляем за собой право на активные акции протеста.*

СПОРТ

# З пераменным поспехам

20 сакавіка футбалісты бабруйскай "Белшыны" распачалі апошні перад пачаткам чэмпіяната краіны замежны збор у Славакіі. У рамках збора праводзіліся кантрольныя матчы з мясцовымі клубамі. Першая гульня – з "Банікам" з Прэвідзы (другі дывізіён – Д2) скончылася з лікам 0:1. Наступная сустрэча зноў прынесла расчараванне: праз два дні бабруйчане з лікам 1:5 саступілі "Артмедыя Петржалка" (Д1). Адзіны гол у нашых землякоў правеў на 42-ой хвіліне Алешчанка. А 26 сакавіка шыннікі адыграліся на трнаўскім "Спартаку"(Д1), які быў разгромлены з сухім лікам 4:0. Двойчы вызначыўся Гормаш, па разу – Седнеў з Трухавым.

Варта адзначыць, што на зборы адсутнічалі ігракі нацыянальнай і маладзёжнай зборных Беларусі Шанталосаў і Шагойка, якія прымалі ў гэты час удзел у афіцыйных матчах.

**Віктар КАЧАН.**

ВЕДАЙ НАШЫХ!

# Трыумфальнае шэсце бабруйчанак па подыуму ў Маскве

23 сакавіка ў памяшканні маскоўскай мэрыі праводзіўся другі міжнародны конкурс "Высокая мода сучаснага нацыянальнага строя". Арганізатарамі конкурсу выступілі: Міжрэгіянальная жаночая грамадская арганізацыя садзеяння ахове традыцый цюркамоўных народаў; Міжнародная асамблея недзяржаўных жаночых арганізацый "Еўразія" пры падтрымцы камітэта грамадскіх і міжрэгіянальных сувязяў Урада Масквы.



У конкурсе ўдзельнічалі каля пяцідзесяці прадстаўнікоў з Расіі, Казахстана, Узбекістана, Азербайджана. Беларусь прадстаўлялі дванаццаць бабруйчанак студыі "Грацыя" з калекцыямі мадэльера Святланы Бядзерынай і два прадстаўніка Мінскага інстытута культуры пры падтрымцы міжнароднай жаночай арганізацыі "Глабальнае партнёрства". Арганізатарам з боку Бабруйска выступіла Бабруйская гарадская арганізацыя грамадскага аб'яднання "Беларуская арганізацыя працоўных жанчын", на чале са сваім старшынёй Наталляй Цымбурскай. Яна ўзяла на сябе вырашэнне фінансавых пытанняў, пошук мастакоў і мадэляў, якія б з гонарам прадставілі наш горад і нашу краіну за яе межамі.

Мадэлі знайшліся ў студыі "Грацыя", якую ўзначальвае Наталля Пахалева. Прадэманстраваць свае калекцыі вырашыла мастак Святлана Бядзерына. Акрамя таго былі прадстаўлены калекцыі АП "Бабруйск-трыкатаж" і ААО "Гарбарны камбінат".

Бачыўшыя рознае, прадстаўнікі маскоўскага бамонду былі прыемна здзіўлены, калі ў намінацыі "Лепшы славянс кі касцюм" першае месца атрымалі прадстаўніцы слаўнага горада Бабруйска.

Бабруйская калекцыя ўяўляе сабой авангардныя строі з выкарыстоўваннем нацыянальных элементаў: вязанне кручком, трыкатажнае палатно, лён, воўна.

Нашы мадэлі, малодшай з якіх было трынаццаць год, проста пакарылі Маскву: калекцыя і студыя "Грацыя" атрымалі запрашэнне на ўдзел у конкурсе газеты "Маскоўская праўда", які мусіць адбыцца ў наступным месяцы. Былі і іншыя цікавыя прапановы – ад здымак у прэстыжным часопісе мод да здымак ў рэкламным ролiку.

У наступным годзе права правядзення конкурсу перададзена нашай краіне, ёсць ў гэтым заслуга і бабруйскіх прыгажунь.

**Надзея КОКАШ.**

***На здымку: Н. Пахалева.***

РЭАЛІІ

# Медыцынскія сакрэты

***Як часта мы адчуваем патрэбу ў кваліфікаванай медыцынскай дапамозе? Ідучы ў напрамку да бліжэйшай паліклінікі ці бальніцы, хочацца адчуць да сябе сапраўдную павагу, пачуць добрыя парады, атрымаць неабходнае лячэнне. А як часта хворым патрэбна проста спачуваючае сэрца, той чалавек, якому можна выказаць ўсе наболелае, з кім можна параіцца і папрасіць дапамогі. Вядома, што людзі больш за ўсё клапоцяцца аб стане свайго здароўя, і можа таму ў нашых гутарках найбольш часта ўзнікаюць пытанні аб якасці і даступнасці медыцынскай дапамогі. Паспрабуем жа зараз разабрацца ў некаторых з іх.***



Чаму неабходныя лекі можна набыць толькі ў камерцыйных аптэках? Ці зацікаўлены ўрачы ў адмове ад выпіскі ільготных рэцэптаў? Як правільна карыстацца ільготамі пры звароце ў аптэку і паліклініку?

Ад таго, выпіша ці не ўрач ільготны рэцэпт, у кішэні ў яго як не прыбавіцца, так і не ўбудзе. Адзіная сувязь: доктар не можа выпісаць больш лекаў, чым хворы прыняць іх за адпаведны тэрмін. Нельга атрымаць адразу сто таблетак альбо выпісваць іх па пяцьдзесят штотыдзень, калі вы за месяц не можаце ўжыць больш трыццаці. Таксама нельга выпісаць лекі ад галаўнога болю ў доктара, які займаецца праблемамі страўніка ці нырак. Абмежаваны і выпіс – нельга атрымаць больш трох ільготных рэцэптаў за адзін візіт да ўрача.

Недахоп лекаў у аптэках з працай ўрачоў нічым чынам не звязаны. За іх наяўнасць адказвае дзяржава і менавіта мінскія начальнікі, якія кажуць аб сваёй заклапочанасці пакот адсутнасці лекаў – па іх жа не выдзяляюць сродкі. За пацыента, атрымаўшага ільготны рэцэпт, павінна расплочвацца дзяржава! І не ў момант атрымання лекаў, а тады, калі робіцца іх закупка за мяжой. Пакуль ўрад не пачне гэта рабіць, неабходныя прэпараты ў дзяржаўных аптэках можна і не шукаць. На жаль, ўсё роўна – жадаеце вы іх купіць альбо атрымаць па льготах.

Колькі каштуе лячэнне? Ці бяруць ўрачы хабар? Які сярэдні заробак у медыкаў? Лячэнне, а гутарка зараз ідзе менавіта аб ім, можна атрымаць бясплатна і на дастаткова высокім узроўні, асноўныя парушэнні адбываюцца пры выдачы справак і бальнічных лістоў. Разам з магчымасцю лішні тыдзень адпачыць ад працы ўзнікае жаданне даць за гэта хабар, але ўздымаючы такія вось набалелыя пытанні, мы кажам не аб кваліфікацыі дактароў, а аб іх асабістым сумленні. Трэба жорстка адзяляць жаданне чалавека паправіцца ад жадання адпачыць. Калі вы хворы – не бойцеся, у Бабруйску ёсць каму лячыць, лячыць бясплатна.

А сярэдні заробак у медыкаў складае 60-65 працэнтаў ад сярэдняга заробка ў прамысловасці.

**Зьміцер БЕРДНІКАЎ.**

ТЭМА ДЛЯ РОЗДУМУ

# Камунізм і рабочы рух

З гэтага года бабруйчане зноў атрымалі магчымасць бачыць на сваіх экранах праграму НТВ са славутым земляком В. Шэндзеровічам. Гэта ён у мінулым годзе абазваў Бабруйск запаведнікам камунізму, і гэтыя словы падхапілі ўсе цэнтральныя выданні рэспублікі, не паклапаціўшыся аб тым, каб нешта там спраўдзіць.

Сапраўды, каб такое сказаць, не варта кудысьці і ехаць – Бабруйск ва ўсе часы быў нечым такім адметным слаўны – ці як яўрэйская сталіца, ці як "горад беларускіх шахцёраў" (бабруйчане, маўляў, усё з-пад зямлі дастаюць), а "камуністычны" ў нашы часы азначае "правінцыйны" у адрозненне ад "прадзвінутых" сталіц, якія спрытна падставілі свае зады пад вецер перамен.

Але ўсё ж і на самой справе, старыя лозунгі настальгічна вабяць жыхароў постсавецкай прасторы, і хаця ў 1980 годзе мы не сталі жыць пры камунізме, як абяцаў тавырыш Хрушчоў, відаць, у XXI стагоддзі яшчэ доўга будзем адчуваць прысутнасць прывіду камунізму.

Сёння ж словы "камунізм" і "камуністычная ідэалогія" азначаюць не столькі ўладу пралетарыяту і грамадскую ўласнасць на сродкі вытворчасці, колькі бясплатны праезд для пенсіянераў, медыцынскае абслугоўванне і адукацыю пры мізэрных заробках, за якія ніхто, натуральна, не жадае гнуць карак. Замест улады пралетарыята 70 год мы бачылі ўладу партыйнай бюракратыі, якая найперш зaўсёды дбала пра свае інтарэсы, а пасля ўжо пра інтарэсы працоўных, ад імя якіх кіравала. Рабочым застаецца задавольвацца сваім лёсам і пазіраць на экранах тэлевізараў на тэлеблазнаў (накшталт расійскага дэпутата-камуніста Шандыбіна, якога вельмі любяць ахвочыя да сенсацый буржуазныя СМІ).

Або зноў "прыйсці да ўлады", стаць прывілеяваным класам – ці рэвалюцыйным шляхам, ці легальным, праз дэмакратычныя выбары. Для гэтага апошняга не трэба быць камуністамі – правы працоўных могуць бараніць і іншыя дэмакратычныя партыі, якія ў савецкія часы лічыліся "буржуазнымі".

Вопыт XX стагоддзя паказаў, што інтэгральнае плапаванне савецкага ці гітлераўскага тыпу ніколі не было накіраванае на паляпшэнне дабрабыту людзей. Тыя, хто планаваў, адказвалі, што *ахвяруюць сённяшнімі пакаленнямі ў імя будучых*, такім чынам, у якасці аднаго з галоўных дадаткаў да свайго рабочага бюджэту працоўныя атрымлівалі *ілюзію* ўпэўненасці ў заўтрашнім дні. Гэты вопыт марксісцкая тэорыя ніякім чынам не магла прадказаць, а тым больш гэта факту, што дзяржаўнае ўладанне сродкамі вытворчасці прывяло да ўзнікнення эксплуататарскага класа – бюракратыі, які нікуды не збіраецца знікаць. Перад рабочымі паўстае праблема, старая, што прамысловы спосаб вытворчасці, – як найбольш эфектыўна бараніць свае правы ў сучасных умовах, калі крызіс даверу да палітычных элітаў на ўсіх узроўнях узрос да такой ступені, што людзі ўжо перастаюць верыць у магчымасць дапамогі ў сваім становішчы аднекуль звонку.

Але насамрэч і не трэба нічога чакаць – ніхто акрамя саміх рабочых не будзе бараніць іх правы. А калі пакуль што для арганізацыі страйку на агульнапацыянальным узроўні свядомасць беларускіх рабочых не даспела – што ж, затое сабатаж на ўсіх прадпрыемствах цалкам магчымы. Ціхі сабатаж не знікаў ніколі ў гады савецкай ўлады, і лозунг "Неси с завода всякий гвоздь, ты здесь хозяин, а не гость" можна са спакойным сумленнем напісаць на штандары *рэальнага* рабочага руху, а "пралетарыі ўсіх краін..."— да гэтага павінна яшчэ дайсці пазней.

Трэба адчуць сваю сілу на ўзроўні цэха і прадпрыемства, каб рабочым зноў стаць сапраўднай сілай, з якой трэба лічыцца. Наўрад ці будзе патрэбна ствараць партыю, што бараніла б інтарэсы працоўных, па сутнасці, камуністычную, г.зн. якая ў аснове сваёй праграмы паставіць нездзяйсняльныя ўтапічныя праекты – у XXI стагоддзі не застанецца месца для веры ў пустыя абяцанні.




**Дзмітрый СЕРАБРАКОЎ.**

*Напоминаем, что вы имеете возможность опубликовать в нашей газете частное объявление АБСОЛЮТНО БЕСПЛАТНО!*

С УЛЫБКОЙ

# Телефон доверия

(Как спрашивали – так отвечаем)

*Я стесняюсь своей груди. Что делать? Помогите! Петр.*

**Не стесняйтесь, Петр. Попробуйте с ней поговорить, во всем разобраться. Мы уверены: она вас поймет.**

*Когда я целуюсь, мне мешают зубы. Как быть? Олег.*

**Вам еще повезло: вот танцорам вообще тяжело приходится. Попробуйте целоваться не вприкус, а взасос.**

*Я влюбился в девушку, а она меня не замечает. Что мне делать? Человек-невидимка.*

**Вам нужно как-то "засветиться". Попробуйте пройти флюорографию.**

*У меня правая нога длиннее. Нормально ли это? Инга.*

**Конечно, ведь левая-то у Вас короче.**

*Съел "Виагру" – ничего особенного. Павел.*

**А что Вы ожидали? Виагарский водопад?**

# Як атрымаць мільён

## Новае супер-шоу на "Рабочы-TV"

***Размяркуйце ў парадку ўзрастання наступныя лічбы:***

***А. 2***
***Б. 1***
***В. 00***
***Г. 7-40***

***Віншуем. Вы ў фінале!***

Дакладна адказваючы на пытанні, Вы будзеце набліжацца да свайго мільёна.

*1. Ці засталіся габрэі ў Бабруйску?*
а. так;
б. не;
в. не ведаем;
г. не скажам.

*2. Найвышэйшае месца ў Беларусі?*
а. гара Дзяржынская;
б. гара Мянжынская;
в. гора Раманоўскага;
г. Эльбрус.

*3. Які гурт атрымаў рок-карону за 2000 год?*
а. КГБ;
б. МВД;
в. N.R.M.;
г. СКГШ.

*4. Які з заводаў знаходзіцца ў Бабруйску?*
а. Белдроссель;
б. Белшынэль;
в. Белшына;
г. Беладона.

*5. Самы вядомы ўрач Бабруйска?*
а. Кацнэльсон;
б. Кабзон;
в. Марзон;
г. Шчыгельскі.

*6. Які з гарадоў знаходзіцца на Бярэзіне?*
а. Бабруйск;
б. Прапойск;
в. Лагойск;
г. Масква.

*7. Жывёла — нацыянальны сімвал Беларусі?*
а. Зубр;
б. Лось;
в. Трус;
г. Карова Мілка.

Усе адказы правільныя. Вы павінны рэдакцыі мільён рублёў. Чакаем Вас на наступным шоў.

**Зьміцер БЕРДНІКАЎ.**

АНЕКДОТЫ

**В**рач спрашивает у больного:
— Зачем Вы психиатру зуб выбили?
— Потому что он доказывал мне, что в каждой семье есть один дурак.
— Ну и что?
— Вся моя семья — это я один.

— Пока я ходил в магазин за сигаретами, какая-то машина въехала на тротуар и сшибла двух прохожих. Кто знает, что было бы со мной, если б я не курил.

— Доктор, скажите честно: неужели грыжа у меня тоже от алкоголизма?
— Несомненно. Вы надорвались, когда шли сдавать пустую посуду.

— Попросите, пожалуйста, следующего пациента, — просит доктор больного, которого уже осмотрел.
— Прошу вас! — говорит пациент даме, сидевшей в приемной, и выходит на улицу.
— А куда мы идем? — вдруг слышит он голос сзади, пройдя с полкилометра.

Толстяк сходит с весов в глубокой задумчивости.
— О чем вы думаете? — спрашивает врач.
— Я вычисляю: при таком весе какой у меня рост?

На уроке закона божьего священник говорит детям:
— А сейчас я вам расскажу, как появился первый человек.
— Святой отец, — говорит Вовочка, — я бы лучше послушал, как появился третий человек...

Мужчина в женской раздевалке. Женский голос:
— Гад!!! Скотина!!! Мерзавец!!! Козел!!! Балбес!!! Дурак! Дурачок! Дурашка. Лапушка...

Идут муж с женой и ругаются на чем свет стоит. А за ними — двое мужчин, и один другому говорит:
— Видишь, к чему приводят смешанные браки?

# Бесплатные частные объявления

Продам очень красивые растения, которые украсят ваш офис, кабинет.
*Более подробно по телефону: 55-51-13.*

Предлагаю очень красивое свадебное платье на высокую девушку. Размер 44-46. Импортного производства.
*Тел. 3-13-06*

Продам пианино "Беларусь" недорого.
*Тел. 4-32-25.*

Продаю или меняю 3-х комнатную квартиру Бобруйск на Минск. (65,7/43,7/7,5) кв/м, приватизированная, 4/5-этажного кирпичного дома, застекленный балкон.
*Тел.(02251) 2-87-01; (017) 269-21-53.*

Куплю монитор для компьютера, 15-17", можно б/у, недорого.
*Тел. 2-18-86.*

Куплю: лист нержавейки, 1-2 мм.; ремонтных поршня к Мерседесу-207D, 2,4 дизель, 616 двигатель. Документы к Мерседесу-207D. Молодняк нутрии до 3 мес. разный; молодняк кроликов: калифорнийских, "бабочка". Б/у входную квартирную дверь — дешево, можно без коробки, срочно.
*Тел. 4-19-32.*

Сниму гараж в центре. Аккуратность и оплату гарантирую.
*Тел. 7-37-72.*

Продам запчасти к Ауди-80, 82 г.в.: проводку, рулевую колонку, рулевую рейку, заднюю балку, панель без щитка, приборы, печку, задний бампер, передние сиденья, бак бензиновый, обшивку.
*Тел. 58-09-08.*

Продам музыкальный центр "Айва", три диска, две кассеты, система усиления басов, т-басс, эквалайзер, шатлл, д/у, цифровой, Y-диапазона, модель 2001, недорого, гарантия; т/в "Сони", фд-3-нитрон, очень дешево, гарантия.
*Тел. 2-97-23.*

Продам электродвигатель 11 кВт, комплект кожи 400 дц, инвалидную коляску, сварочный аппарат, облицовочную плитку, электропроигрыватель, магнитолу, мужское пальто, вентилятор вытяжной (Италия), женские колготки импортные, электроды, электродвигатель 1,5 кВт, 1400 об/мин, обувные материалы, аэрогриль (Англия), топочную дверцу для печи, телевизор "Горизонт-655", п/п, б/у.
*Тел. 7-78-38.*

Продам дубленку мужскую (Канада, разм. 48-50 б/у); дубленку женскую (США, разм. 52 б/у); костюм мужской (Франция, разм. 48 б/у); шапки зимние (ушанки) – из рыжей лисы новая, песцовая б/у; шляпы фетровые (зеленая и красная); пальто демисезонное с рыжей лисой, разм. 54; сапоги мужские (дутые) разм. 43, почти новые; диванդеки, накидки для кресел, покрывала; скороварку (новая). Все вещи в хорошем состоянии, цена договорная.
*Телефон: 3-90-08.*

Меняю дом, пригодный для дачи, в поселке Глуша на автомобиль ВАЗ любой модификации, или продам.
*Звонить 93-4-34 в рабочие дни с 12 до 18, позвать Олега.*

Ищу работу, можно разовую. Есть водительские права категории А, В, С, D. Имею российский паспорт.
*Тел. 3-41-66.*











# Купон частного бесплатного объявления

Имя и фамилия (*не для печати*) ____________

Адрес (телефон) (*не для печати*) ____________

Текст объявления: ____________

**Вырезать, заполнить, послать по адресу: 213809, Бобруйск, а/я 25.**